№91 (1654)

Пятніца, 23 мая 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння чакаецца ўдзень — +11...+13, уначы — +6...+8; у Брэсце ўдзень — +19...+21, уначы — +9...+11; у Гродне ўдзень — +18...+20, уначы — +9...+11; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +7...+9; у Гомелі ўдзень — +20...+22, уначы — +13...+15; у Магілёве ўдзень — +14...+16, уначы — +10...+12.

На ўсёй тэрыторыі краіны ўдзень дождж, уначы — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## 22 года тюрьмы на двоих

Бывшего президента концерна "Белгоспищепром" Виктора Казеко Минский городской суд приговорил к 12 годам заключения в колонии строгого режима с конфискацией имущества. Его сына Андрея Казеко — начальника отдела сбыта РУП "Минск Кристалл" — к 10 годам колонии строгого режима с конфискацией имущества.

Суд вынес приговор, полностью согласившись с прокурорским требованием столь жестокого наказания, нисколько не уменьшив запрошенные сроки заключения.

Это первый случай вынесения приговора на столь длительные сроки для представителей "директорского корпуса", который сегодня подвергается широкому судебному преследованию со стороны властей.

Виктор Казеко и его сын Андрей Казеко находились в следственном изоляторе около года. Виктор Казеко обвинялся в неоднократном получении взяток, злоупотреблении служебными полномочиями, легализации доходов, полученных в результате незаконной деятельности, а также совершении ряда других преступлений. Его сын привлечен к уголовной ответственности за получение по предварительному сговору со своим отцом взяток, злоупотребление служебными полномочиями, контрабанду иностранной валютой, уклонение от налогообложения.

Своих приговоров сегодня ожидают такие фигуры, как экс-директор МТЗ Леонов, экс-директор завода "Атлант" Калугин, а также немало руководителей мелких, средних и крупных заводов и предприятий Беларуси.

*(www.charter97.org)*

## Інтэлігенты займелі сваіх начальнікаў

У Мінску адбылося пасяджэнне аргкамітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, на якім былі зацверджаны склад управы і рады беларускай інтэлігенцыі.

У склад рады ўключаны 90 чалавек — настаўнікі, пісьменнікі, урачы, мастакі, інжынеры, навукоўцы. Сярод іх: пісьменнікі Васіль Быкаў, Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, артыстка Зінаіда Бандарэнка, настаўнік Алесь Белакоз, урач Тамара Белавокая, філолагі Вінцук Вячорка і Лявон Баршчэўскі, а таксама эканаміст Уладзімір Заблоцкі.

Як вышэйшы орган нацыянальнай інтэлігенцыі, рада створана на аснове "добраахвотнага аб'яднання вядомых дзеячаў айчыннай навукі і культуры", якія "ўсведамляюць сваю адказнасць за лёс Беларусі". Рада будзе збірацца не радзей за два разы ў год для абмеркавання найбольш вострых праблем жыцця краіны.

Як адзначыў адзін з сустаршыняў рабочай групы аргкамітэта вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін, у выніку кансультацый і перамоў, якія вяліся з палітычнымі лідэрамі і грамадскімі дзеячамі пасля І Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, была дасягнута дамоўленасць аб пашырэнні складу рады да 100 чалавек. Такім чынам, аргкамітэт Усебеларускага сходу інтэлігенцыі часова склаў свае паўнамоцтвы да склікання чарговага форуму.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Чырвонай фарбай залілі будаўнічую тэхніку ў Курапатах

Пра гэта паведаміў БелаПАН адзін з "абаронцаў Курапат", які пажадаў застацца невядомым.

Па яго словах, чырвоная фарба — гэта "сімвал крыві дзесяткаў тысяч людзей, закатаваных у Курапатах". "Будаваць катэджы на касцях і крыві — бесчалавечна, і мы будзем бараніць гэтае месца ўсімі даступнымі нам сродкамі", — сказаў ён.

Нагадаем, што 20 мая ў Мінску на пасяджэнні Беларускага рэспубліканскага савета па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны быў зацверджаны праект ахоўных зон помніка гісторыі "Месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій 30—40-х гадоў Курапаты".

Ахоўныя зоны ўключаюць і тэрыторыю пляцовак, на якіх размесціліся будаўнічыя базы аб'яднання "Вігеўрабуд", а таксама тэрыторыю аднаго з прыходаў Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы. Згодна з рашэннем савета, у ахоўнай зоне Курапат забаронена любое будаўніцтва да зацвярджэння дзяржавай праекта мемарыялізацыі ўрочышча.

**Аляксей ШЭІН.**

## Майкл Козак: у Кангрэсе занепакоены сітуацыяй у Беларусі

Палажэнні "Акта аб дэмакратыі ў Беларусі-2003 ", уключаныя ў рэестр абавязковых расходаў на будучы год, "вельмі сур'ёзна разглядаюцца абедзвюма палатамі Кангрэса" і "шырока падтрымліваюцца абодвума бакамі". Пра гэта БелаПАН заявіў пасол ЗША Майкл Козак падчас свайго візіту ў Маладзечна. Паводле яго слоў, гэта "адлюстроўвае высокі ўзровень занепакоенасці ў Кангрэсе той сітуацыяй, што склалася ў Беларусі".

Акт аб дэмакратыі быў прадстаўлены на разгляд Сената ЗША 25 сакавіка. Дакумент прадугледжвае дадатковую падтрымку дзейнасці па развіцці дэмакратыі ў краіне, у тым ліку няўрадавых арганізацый, незалежных СМІ, садзейнічанне ў правядзенні свабодных і сумленных парламенцкіх выбараў у 2004 годзе, на арганізацыю тэле- і радыёвяшчання на Беларусь. На фінансаванне праграм акта ў 2004—2005 гадах мяркуецца выдзеліць 40 мільёнаў долараў і яшчэ 5 мільёнаў — на развіццё вяшчання радыёстанцый "Голас Амерыкі" і Радыё "Свабода".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Прадстаўніцтва ААН падтрымала «Ратушу»

Ліквідацыя гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша" "сур'ёзна абцяжарыць рэалізацыю ў Гродзенскай вобласці праекта "Інтэрнет" і значна скароціць інфармацыйна-адукацыйныя магчымасці жыхароў горада і рэгіёна. Аб гэтым заявіў рэзідэнт-каардынатар ААН у Беларусі **Ніл БУНЭ** ў лісце Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, накіраваным 21 мая начальніку ўпраўлення юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама, старшыні абласнога суда і міністру адукацыі Беларусі.

Аб'яднанне "Ратуша" з'яўляецца адным з партнёраў Прадстаўніцтва ААН і Міністэрства адукацыі па рэалізацыі праекта "Інтэрнет" у Гродзенскай вобласці. Гэты праект садзейнічае забеспячэнню доступу да Інтэрнета ўстаноў адукацыі, аховы здароўя, культуры, СМІ, а таксама грамадскіх аб'яднанняў краіны. "Дзейнасць "Ратушы" ў межах гэтага праекта заслугоўвае станоўчай ацэнкі", — адзначаецца ў заяве.

**Іван ПАЎЛЁНАК.**

## У Гродне — серозны менінгіт

Ужо 40 чалавек захварэлі на серозны менінгіт у Гродне. Магчыма, што крыніца заражэння — водаправодная вада.

Большасць захварэлых — дзеці і падлеткі да 14 гадоў, якія жывуць на вуліцах Ліможа, Брыкеля і бульвары Ленінскага камсамолу.

Серозны менінгіт — запаленне мяккіх мазгавых абалонак. Яго ўзбуджальнікам з'яўляецца энтэравірус, які можа знаходзіцца ў розным асяроддзі і перадавацца водным, харчовым і паветрана-кропельным шляхамі.

Урачы рэкамендуюць гараджанам не ўжываць негатаваную водаправодную ваду. У найбліжэйшыя 10 дзён на ўсіх водазаборах горада будзе праведзена гіперхлярыраванне, у сувязі з чым водаправодная вада будзе мець моцны пах хлору. Гэтая вада таксама будзе шкодная для здароўя.

**Ірына ЧАРНЯЎКА.**

**100!**

# Віза ў Краіну старэйшын

*Такая краіна, канешне ж, у рэальнасці не існуе. А калі б была, то доўгажыхар Мінска Станіслаў Станіслававіч Глінскі атрымаў бы пропуск туды без усялякіх пытанняў.*

*25 мая салдату Перамогі, ветэрану Вялікай Айчыннай спаўняецца 100 год. Дарогу даўжынёй у цэлы век ён прайшоў мужна і годна. Я ўдзячна лёсу за сустрэчу з такім чалавекам і яго неаддзельнай палавінкай, светлым анёлам і вернай спадарожніцай Марыяй Паўлаўнай.*

*На гэтым леташнім здымку Станіславу Станіслававічу яшчэ толькі 99, праўнучцы Настулі — 10, Марыі Паўлаўне — 92. А зараз — на год болей.*

(Працяг чытайце на 2-й стар.)

**СКАНДАЛ**

### *Владимир ПАРФЕНОВИЧ:*

# «Если бы я столько получал, то здесь бы не жил»

*Выступая перед Национальным собранием Республики Беларусь, А.Лукашенко заявил, что некоторые депутаты имеют годовой доход больше тридцати тысяч долларов. "Возьмите Верхний город в Минске. Отремонтировали его еще при Вячеславе Францевиче Кебиче, создали уютное место. Горисполком — собственник. Но насоздавали там какие-то структурки, в некоторых активно участвуют депутаты, сдают площади в аренду. И только на одном здании получали по 30—40 тысяч долларов в год. Хорошо живется некоторым "защитникам народа"! Поэтому если мэр хочет работать дальше, то должен немедленно вернуть в собственность эти предприятия и сдать в аренду тем, кто там живет, а не посредникам!.."*

На днях Белорусское телевидение озвучило фамилию депутата-миллионера, соучредителя нескольких коммерческих фирм, одна из которых якобы "засветилась" на ввозе в Беларусь просроченных лекарств, — это трехкратный олимпийский чемпион **Владимир ПАРФЕНОВИЧ.**

**— Владимир Владимирович, правда, что Вы до сих пор являетесь соучредителем нескольких коммерческих фирм?**

— Я действительно был соучредителем двух фирм. Одна фирма — та, о которой говорил глава государства, выступая перед парламентом с посланием. Но это не моя фирма, моих там было всего десять процентов. Уйдя в депутаты, я продал свою долю и ушел оттуда. В другой фирме моих было пятьдесят процентов.

Но на сегодняшний день я не являюсь соучредителем ни одной, ни другой фирмы. После того как стал депутатом, я в этих фирмах даже ни разу не появлялся. Тем более я не участвовал в их работе. Я прекрасно знал, что работаю в парламенте, и понимал, с чем мне придется столкнуться из-за своей принципиальной позиции.

**— В эфире БТ прозвучало, что одна из Ваших фирм якобы засветилась на поставках медикаментов с истекшим сроком годности...**

— Это глупости. Какая аптека в Беларуси примет лекарства с истекшим сроком годности?! Вы же здравомыслящий человек!.. Если бы Вы работали в области фармации, Вы бы это понимали. Если у препарата истек срок годности, его могут отдать на проверку и потом продлить срок годности. Но если срок годности не продлен, препараты не реализовывают.

Что касается ввоза наркотиков для медицинского использования — у фирмы была соответствующая лицензия и все необходимые документы для работы в этой области.

**— Сейчас фирмы, к которым Вы имели самое непосредственное отношение, работают?**

— Работают. Насколько успешно? Когда государство за поставленный товар по полгода не возвращает деньги, о каком успешном бизнесе может идти речь?

**— Не прибедняйтесь. Теперь вся страна знает, что от деятельности этих фирм Вы кладете в карман 53 миллиона белорусских рублей.**

— Это сколько в долларах?

**— Примерно 26 тысяч долларов. Но, по версии Лукашенко, Ваши незаконные доходы составляют около сорока тысяч долларов в год...**

— И Вы этому верите?.. Если бы я столько получал, то здесь бы не жил...

*В ближайшее время депутаты Палаты представителей* **Сергей Скребец** *и* **Владимир Парфенович** *намерены потребовать у руководства Первого национального канала предоставить им эфирное время.* ***"Мы хотим изложить свой взгляд на те вещи, в которых нас обвиняют,*** — говорит руководитель депутатской группы "Республика" **Сергей Скребец**, в отношении которого недавно возбуждено уголовное дело *(он обвиняется в создании преступной группы и выманивании государственного целевого кредита на сумму 500 тысяч долларов).* — ***Надеемся, что своего добьемся".***

*Если Скребцу и Парфеновичу предоставят эфир, они многое скажут...*

### *Взгляд со стороны*

### *Владимир КОНОПЛЕВ:*

### «Это не первый случай...»

*"Прокуратура имеет право возбуждать уголовное дело в отношении депутатов, если они подозреваются в серьезном преступлении, например, в воровстве в особо крупных размерах,* — заявил журналистам заместитель председателя Палаты представителей Владимир Коноплев. Он не согласился с утверждением, что возбуждение уголовного дела в отношении Скребца связано с его политической деятельностью. *"Это не первый случай в Беларуси, когда многие из тех, кто проворовался и в отношении кого возбуждены уголовные дела, увязывают это с политикой",* — сказал Коноплев.

### *Иван ПАШКЕВИЧ:*

### «Это настоящая расправа над депутатами!»

— Даже у меня, депутата с немалым стажем, не всегда хватало смелости отстаивать свою позицию, потому что боязно за свою семью, своих близких. И я рад, что находятся такие депутаты, как Владимир Парфенович, которые о многих проблемах нашего государства говорят в открытую. Смелая позиция таких депутатов лично у меня вызывает уважение. Но стоит только парламентарию занять принципиальную позицию, как национальное телевидение в нарушение всяческих норм начинает кампанию клеветы, выливая на депутатов ушаты грязи. Это настоящая расправа над депутатами! И сюжет, показанный по Белорусскому телевидению про депутатов Скребца и Парфеновича, только подтверждает, что существует давление на депутатов.

Уважаемые коллеги! Проявите смелость и поддержите тех депутатов, которым хватает мужества отстаивать свою позицию!

**Марина КОКТЫШ.**

# Лукашенко полетит в Питер «назло надменному соседу»?

*Независимая пресса задалась вопросом: а полетит ли Александр Лукашенко в Петербург.*

*Там в конце мая, как известно, развернутся помпезные торжества в честь трехсотлетия российской северной столицы. По последним данным, ожидаются главы 43 стран. Вероятнее всего прибудет и белорусский руководитель. Но в его пресс-службе пока не могут сказать о визите более конкретно — говорят, что полная ясность будет только на следующей неделе.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

В любом случае показательна уже сама постановка вопроса: а полетит ли? Формально Лукашенко — ближайший союзник Путина. Но сегодня их отношения скорее можно назвать проблемными, нежели партнерскими. Конечно, не пригласить белорусского коллегу российский лидер просто не мог. Однако те времена, когда на радостях дорогой гость бил чарки в кремлевских палатах, ныне кажутся фантасмагорией. Теперешние торжества в Питере, скорее, выглядят для бывшего главного интегратора, как в чужом пиру похмелье. Сколь ни обидно, там ему отведена роль бедного родственника. Путин, естественно, предпочтет теплое общение с Бушем, Блэром и прочими мировыми грандами, для коих белорусский президент — изгой и "последний диктатор Европы".

Правда, самая свежая информация из Москвы гласит, что кремлевский хозяин решил совместить приятное с полезным — юбилейные мероприятия с неформальным саммитом лидеров СНГ. Но и в этой компании у белорусского официального лидера уже далеко не прежние позиции. Это при Ельцине можно было красоваться в роли такого, знаете ли, кремлевского баловня. А вот второй российский президент, выступая на днях с посланием Федеральному собранию, ни словом не обмолвился о союзе с Беларусью, который в прежние времена рекламировался как образец интеграции на постсоветском пространстве. При этом СНГ в целом Путин без обиняков назвал сферой стратегических интересов России. По крайней мере, это честно, без всяких там сантиментов насчет братской любви, общих корней и славянского родства.

Иначе говоря, Беларусь вычеркнули из списка кремлевских льготников. Газа в обмен на поцелуи официальный Минск уже никогда не дождется. Москва будет прессинговать по всем правилам рыночной экономики и в духе своих стратегических интересов — проще говоря, в целях тихой экономической экспансии.

А за несговорчивость российский истеблишмент наказывает Лукашенко негласным бойкотом. Путин как бы в упор не замечает белорусского коллегу. Судя по всему, в Кремле проигнорировали некие "радикальные" предложения в рамках двусторонней интеграции, о которых Лукашенко таинственно, намеками говорил пару месяцев назад. Более того, до сих пор не состоялась встреча двух президентов, на которой, по словам Лукашенко, непременно надо обсудить окончательный вариант проекта Конституционного акта Союзного государства. Предполагалось, что такое рандеву пройдет в конце апреля, но Кремль, как видим, спустил вопрос на тормозах. Неизвестно также, когда можно ожидать очередного заседания Высшего госсовета Союзного государства — все сроки давно прошли.

Показательно, что Путин не стал муссировать тему интеграции с Беларусью даже в пиаровских целях, что предрекали аналитики в связи со скорыми уже выборами депутатов Государственной думы, а затем, будущей весной, и президента России. Для пиара же на тему интеграции (все-таки она, как бальзам на душу изрядной части электората) российский лидер выдвинул инициативу создания "четверки" — Организации региональной интеграции, в которую приглашены, кроме Беларуси, Казахстан и Украина. Таким образом у Лукашенко окончательно отбирают амплуа главного объединителя на постсоветском пространстве. Путин, например, не нашел времени встрститься с ним тет-а-тет на недавнем саммите ЕвразЭС в Душанбе. Тем более проблематична такая встреча "средь шумного бала" в Питере.

Петербург вообще саднит в душе Александра Лукашенко. В прошлом году российский коллега посвятил ему там десять часов общения, даже на катере по Неве покатал, да только не сошлись они во взглядах на интеграцию. И через несколько дней ножом в спину ударили безжалостные слова Путина насчет мух и котлет... Так что ныне на берега Невы Александр Лукашенко полетит, говоря пушкинским слогом, "назло надменному соседу".

Конечно, такой сбор мировых лидеров может дать шальной шанс для саморекламы. Помнится, на стамбульском саммите ОБСЕ Лукашенко сумел перед телекамерами пожать руку самому Клинтону (кажется, так ничего и не понявшему). Но в Питере с Бушем такой номер наверняка не пройдет. Уж больно много грязи вылито за последние месяцы на Вашингтон из-за сочувствия к иракскому диктатору.

Кстати, сам юбилей северной столицы навевает интересные параллели. Ведь триста лет назад, закладывая город среди топей, Петр Первый яростно прорубал окно в Европу. Вдумаемся: уже тогда самодержец дремучей империи понял, что без Европы, без открытости миру — не прожить. И теперь сопоставьте это со словами, прозвучавшими из уст белорусского руководителя несколько дней назад. "В Европе вас никто не ждет!" — так "напутствовал" Александр Лукашенко студентов академии искусств. Если такое говорят в 21-м веке, в эпоху глобализации, притом говорят молодежи **европейской** страны, значит — как бы это выразиться помягче — что-то не в порядке с ориентирами у официального Минска.

С другой стороны, действительно трудно надеяться на теплоту, когда с высоких трибун в Минске в направлении прочих столиц веером разлетаются угрозы и обвинения. В последние месяцы доставалось и Москве, и лидерам тех постсоветских государств, что поддержали операцию в Ираке, и уж, конечно, Штатам с их "новым тоталитаризмом"... Так надо ли удивляться, если минскому гостю в Питере не бросятся раскрывать объятия ни гранды мировой политической элиты, ни даже коллеги по СНГ?

*("Белорусские новости".)*

# «Стойкий перед бандитами»

*Есть на интернет-странице А.Лукашенко раздел под названием "Почта Президента". Учитывая сложную общественно-политическую ситуацию в Беларуси, скандальность и неоднозначность нынешнего руководства, повальную бедность в обществе, ожидаешь, честно говоря, в этом разделе увидеть букет мнений, общественную дискуссию, в конце концов, мольбу о помощи. А что видишь? Всего пять писем, отобранных строгой цензорской рукой, и те под двумя эксклюзивными рубриками: "Поздравление" и "Благодарность".*

Предлагаем нашим читателям ознакомиться с двумя письмами из этих пяти хитов (стиль и орфография авторов сохранены):

*Благодарность*

*Уважаемый Александр Григорьевич! Я являюсь секретарём ПО ОО "БРСМ" ПНГ. Хочется Вас поблагодарить зато, что поддерживаете такое замечательное объединение. Нам ваша поддержка необходима. Спасибо!!!*

*Дмитрий АДАМОВИЧ, г.Полоцк.*

*Поздравление*

*Уважаемый Президент и земляк! Поздравляю вас с Днём Победы! Желаю вам всех-всех благ. Особенно желаю вам терпение за несправедливые оскорбления в ваш адрес и стойкость как руководителя страны перед "бандитским" руководством России и США. Пусть благославит вас Бог.*

*Сергей ТУРБИНСКИЙ.*

Ну как вам насчет "бандитского руководства России и США"? Помнится, в бытность Станислава Шушкевича председателем Верховного Совета в Минск с официальным визитом приезжал президент США Билл Клинтон. И ничего, цветы к Вечному огню самый главный в "бандитском руководстве США" возложил. Чем отдал дань памяти погибшим от нацизма. Установил в Куропатах еще и мемориальную скамейку, чем почтил память жертв сталинских. И американские предприятия у нас открывались совместные, и неправительственные организации из США у нас работали, деньги и гуманитарная помощь из-за океана под оздоровление "чернобыльцев" выделялись. Никто Америку не воспринимал как врага. Теперь вот и в Кремле "бандиты" завелись...

Если бы письма из "Почты Президента" можно было бы обнаружить на каком-нибудь свободном "чате" в Интернете, то это — одно дело, но когда именно их отбирает официальная "мясорубка", то это уже не письма, это уже политика.

**Александр СИЛИЧ.**

# Нашы ваенныя змогуць паехаць за мяжу

*22 мая Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прыняла ў першым чытанні праект закона "Аб парадку накіравання ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, органаў і падраздзяленняў, а таксама цывільнага персаналу за межы Рэспублікі Беларусь для ўдзелу ў дзейнасці па падтрыманні міжнароднага міру і бяспекі".*

За прыняцце законапраекта прагаласавалі 56 дэпутатаў, супраць — 10.

Дакумент распрацаваны ў Міністэрстве абароны і ўнесены ў парламент прэзідэнтам. Як паведаміў, выступаючы перад дэпутатамі, міністр абароны Леанід Мальцаў, законапраект развівае палажэнні Закона аб абароне, згодна з якім прэзідэнт надзяляецца правам накіроўваць беларускіх ваенных за мяжу для ўдзелу ў міратворчых аперацыях.

Беларусы могуць накіроўвацца за мяжу толькі па іх асабістай згодзе, афармленай у пісьмовай форме. А рашэнне прэзідэнта аб адпраўцы павінна загадзя ўзгадняцца з парламенцкімі камісіямі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

АСОБА

# Віза ў Краіну старэйшын

(Пачатак на 1-й стар.)

## Знаёмства

Колькі ж гэта прайшло з таго першага, можна сказаць, выпадковага нашага знаёмства? Ну так — дзевяць гадоў без драбнічкі. Як зараз бачу пагодны святочны дзень 3 ліпеня 1994-га — дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Адразу некалькі калон рушылі з плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі з кветкамі вечнай удзячнасці героям. На фонеззяючага сіняга неба шырокакрылымі птахамі луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Настрой быў у рыфму сонечнаму дню: людзі ўсміхаліся адзін аднаму, маладыя бацькі трымалі на плячах дзетак...

Вось мы ўжо і амаль ля цырка. Ды раптам быццам хмара наляцела. Перад маніфестантамі з нацыянальнымі сцягамі (а на той час, да ганебнага майскага рэферэндуму-95, яны былі яшчэ дзяржаўнымі, неадмененымі!) грозна самкнуліся, загарадзіўшы шлях, ланцугі міліцыянтаў. Людзі абураліся, патрабавалі прапусціць, здзіўляліся: як жа так? Тут, пэўна, нейкае непаразуменне. У шэрагах недапушчаных было шмат ветэранаў, што прайшлі праз вайну да Перамогі. Сярод іх і славуты на ўвесь свет Васіль Быкаў, які першым, таленавіта і мужна, пачаў пісаць на ўвесь свет суровую Праўду аб той страшнай вайне. І вядомы архітэктар Георгій Заборскі — стваральнік абеліска на плошчы Перамогі, які задоўга да яе, на ложку франтавога шпіталя, накідваў абрысы будучага помніка...

Многія тады яшчэ і ўявіць не маглі, што адбылася зусім не недарэчнасць, не прыкрая памылка па нейчым недаглядзе. Гэта як раз быў — дагляд!. Першая, можна сказаць, “ластаўка” той “генеральных лініі”, якую вызначыў для сябе толькі што абраны і на той дзень яшчэ не інаўгураваны прэзідэнт краіны. Лінія, якой цяпер ужо мала хто здзіўляецца: лінія супраць здаровага сэнсу, што вядзе ў нікуды...

На лавачцы ў Купалаўскім парку, куды падаліся многія “няправільныя” маніфестанты (тады яшчэ іх не хапалі, не кідалі ў “варанкі” за краты, не судзілі — гэта ўсё яшчэ было наперадзе), убачыла святочна прыбраную пажылую пару. Ён — высокі, зграбны, не па гадах падцягнуты, з ордэнамі-медалямі на ўсе грудзі — з задуменна-засяроджанай усмешкай глядзеў на прымяты гваздзічок, які трымаў у руцэ. Яна — маленькая, хударлявая, з жывымі агністымі вачыма — церабіла расхінутую кофту, на якой чамусьці не хапала некалькі гузікаў.

— Сядай, дочачка, побач, — ласкава запрасіла яна, даючы мне месца на лаве. — Не думай, што я бамжыха якая. Гэта ж міліцыянт — ну як раз, як мой унук узростам — так шкуматнуў мяне, што аж гузікі на брук пасыпаліся. А што я зрабіла? Толькі і сказала: “Вы што, звар’яцелі, сумленне страцілі? Хто вам даў права не пускаць майго мужа-франтавіка на плошчу Перамогі? Ён жа яе здабываў!”.

— Ну і гарачы ў цябе характар, Марыя, — усміхнуўся ветэран. — А я адразу ўбачыў: шкляныя вочы ў іх, калючыя — пэўна, нейкі загад маюць. Шкада, канешне, што кветачку сваю да помніка не данёс. Хацеў пакласці сваім братам — Віктару і Барысу, на зыходзе вайны абодва загінулі. Я адзін жывы вярнуўся. А колькі родных, сяброў, наогул народу палегла...

Я запытала ў новых знаёмых — Станіслава Станіслававіча і Марыі Паўлаўны Глінскіх:

— Вы, пэўна, дзесьці тут паблізу жывяце, вырашылі ахаладзіцца ў цяньку, пасля пераранага шэсця?

— Якое “паблізу”, ад самага аэрапорта ішлі. Выбраліся з дому, а транспарт ужо адключылі, і мы да плошчы Незалежнасці на сваіх дваіх дачэпалі. Адтуль і да цырка...

— Як — у вашым узросце?!

— А што? Сіла яшчэ ёсць. Мне ж толькі 91, а Марыя зусім “маладзенькая” — 84...

## Было...

Мінула дзевяць год. За гэты час мы не раз сустракаліся. З радасцю прыязджаю ў гасцінную, не па-старэчы ўтульную, хоць і сціплую, кватэру-палутарку на першым паверсе шматпавярховага гмаха, што па вуліцы Авакяна. Дзякуй Богу, што пры сучаснай забудове на месцы аджыўшых сваё дамоў і дамочкаў тут зберaглі старыя яблыні, грушы, вішні і тутэйшым жыхарам ёсць дзе пасядзець у засені, бавіць час з дзецьмі і ўнукамі, любуючыся буяннем вясновай квецені.

Праўда, мае знаёмцы ўжо рэдка выбіраюцца нават на лавачку ля ганка, ўсё ж гады даюць сябе знаць. 25 мая гаспадару спаўняецца 100 гадоў! І столькі ўсяго было на ягоным шляху, што нельга не здзіўляцца: да глыбокай старасці ўдалося захаваць такі ясны розум і мудрасць, душэўную чысціню і стойкасць перад усімі выпрабаваннямі лёсу.

...Нядаўна Станіслаў Станіслававіч перанёс цяжкую аперацыю, атрымаў, нарэшце, І групу інваліднасці. З болем бачу — саслабеў. Пры доўгай размове стамляецца, ідзе ў другі пакой перадыхнуць на некалькі хвілін. Але госця з парога сустракае, таропка накідваючы на плечы “парадны” пінжак з узнагародамі: свята ж!

9 мая я прыехала павіншаваць сям’ю Глінскіх з Днём Перамогі. Мы сядзелі за сталом, накрытым увішнай і лёгкай, як птушка, гаспадыняй. Па-ранейшаму яна атуляе сваёй шчырай гасціннасцю і цеплынёй. А якія фірменныя бліны пячэ — за вушы не адцягнеш. З-пад акуляраў бліскаюць па-маладому агністыя вочы, жывая гутарка перасыпана смехам, жартамі. Уяўляю, якой вабнай яна была сваёй вясновай парой.

— Прызнавайцеся, Марыя Паўлаўна, у вас тады, напэўна, адбою ад хлопцаў не было?

— Ой, дочачка, скажаш. У нас вялікая сям’я была, жылі ў беднасці, не да гуляў асабліва было. І не прыгажуня я зусім.

— “Не прыгажуня”, а сама за другога ледзь не выскачыла! — жартаўліва ўпікнуў сваю палавіну “раўнівы” муж.

— І выскачыла б, каб ты хоць на дзень спазніўся! — горача ўскінулася яна. І ўжо да мяне:

— Ну, быў у мяне тады жаніх Ігнат, неблагі, нават сімпатычны хлопец. Але неяк прыходжу адна на вечарынку да сяброўкі, і тут мяне незнаёмы малады чалавек танцаваць запрашае. Такі далікатны, абыходлівы, паважлівы, хоць і не надта гаваркі. А прыгожы, а танцор! Як закруціў у вальсе, дык усё і паплыло перад вачыма. Апынулася на дзесятым небе, пра ўсё на свеце забылася.

— І пра Ігната?

— Той кіпеў, злаваўся, нават пагражаў адпомсціць саперніку. Я папрасіла ў яго прабачэння, бо не хацела крыўдзіць. Але хіба вінавата, што раней Стася не сустрэла?

— А вы, Станіслаў Станіслававіч, помніце, як усё было?

— Як не помніць? Было ж “нядаўна”, ішоў 1929 год... Бачу, стаіць ля сцяны худзенькае, у старой кофтачцы дзяўчо. Быццам нічога асаблівага, а падняла вялікія прамяністыя вочы — душу да дна прасвяціла. Праводзіў яе дадому, потым у тэатр запрасіў (цяпер Купалаўскі), у наш рабочы клуб — там я іграў на трубе. Ну і як прыстойны чалавек у хуткім часе зрабіў прапанову...

— Відаць, вы скарылі будучую жонку не толькі знешнасцю, а і інтэлігентнасцю, талентам танцора і музыкі. Дзе ж навучыліся гэтаму?

— Перш за ўсё ў сям’і, дзе бацькі сваім прыкладам вучылі годнасці і павазе да іншых. Нарадзіўся я ў самым цэнтры Мінска, быў хрышчаны ў каталіцкай катэдры на цяперашняй плошчы Свабоды. Пры Саветах нельга было маліцца, і я ледзь не плакаў, калі з храма выкідвалі рэчы, пераптварылі яго ў нешта гаспадарчае. Але памкненне жыць дабром, па-хрысціянску ўсё ж засталося некранутым зернейкам.

— Пра танцы-музыку вы не сказалі...

— Мы з братам Барысам служылі разам у чырвонаармейскай чыгуначнай часці, і выйшаў загад стварыць там аркестр. Далі нам у рукі медныя трубы — бас і



*На гэтым здымку 80-гадовай даўнасці — музыканты-чырвонаармейцы Станіслаў і Барыс Глінскія (чацвёрты і пяты злева ў верхнім радзе).*

барытон, а іграць не ўмеем. Вучыліся, пыхцелі над азамі нотнай граматы. Спадабалася! Чакайце, я вам зараз нешта пакажу...

Стары падняўся з-за стала, падышоў да шафы і хутка знайшоў, што шукаў.

— Вось, глядзіце, на здымку той наш аркестр. Гэта — мы з Барысам. А гэта, — працягнуў ён мне тоўсты зжоўклы сшытак, — цудам з 23-га года ў сястры захавалася.

Дзіва: нібыта не рукой музыкі-каліграфа выведзены, а друкарскім спосабам адціснуты ноты розных аркестровых п’ес: тут “Марш Октября” (ну, як жа тады без яго?), і “Прощание славянки”, полька “Бабочка” і вальс “Березка”...

— А хто ж іграў на вашым вяселлі?

— Якое вяселле, дочачка, пры нашай бядноце? — уступіла Марыя Паўлаўна. — Распісаліся мы ў загсе, прыйшлі да нас, селі за стол, перакусілі чым Бог паслаў. Пасяліліся ў цесным катушку, потым сваімі рукамі са Стасем дамок сабе ладзілі. Цэглу на сабе цягалі аж за два кіламетры, ніякай работы не баяліся.

— Станіслаў Станіслававіч, вы ж маглі пайсці па музычнай частцы, а выбралі цяжкую рабочую прафесію.

— І не адну. Я не шкадую аб тым. Пэўна, ад бацькі спрыт займеў у руках. Яшчэ ў маладыя гады асвоіў даволі рэдкую тады спецыяльнасць шафёра, працаваў на розных будоўлях. Магістраль Мінск—Масква, дарога Орша—Лепель, мост у Барысаве і шмат яшчэ чаго — мая работа. Нагружу каменнямі сваю трохтонку — аж прасядае. Але ніводнай аварыі. І потым — на заводзе, у чыгуначных майстэрнях — любая, самая тонкая работа мне лёгка давалася: любую дэтальку абмазгую, вылічу, вытачу і прыладжу як мае быць.

— Гэтае ўмельства і на вайне было не за плячыма насіць?

— Само сабою.

## Вайна

На фронт ён пайшоў з першага ж дня, пакінуўшы на волю лёсу Маню і чацвёра дзетак. Але хутка часць трапіла ў акружэнне — немцы пёрлі, як ашалелыя, у нас жа абарона рассыпалася. Удалося ўсё ж прарвацца, трапіць у лес. На Чэрвеньшчыне ў атрадзе імя Шчорса партызаніў да выгнання немцаў. А там — за баранку і на фронт, дабіваць ворага.

— Чулі, пэўна, песню франтавога шафёра, яна быццам проста пра вас:

*Через реки, горы и долины,*
*Сквозь пургу, огонь и черный дым*
*Мы вели машины, объезжая мины,*
*По путям-дорогам фронтовым...*

— Так — і па мінах, і пад снарадамі, і пад бомбамі, а груз як найхутчэй даімчы. Скінуў — стрымгалоў назад, за новым грузам. Нават два слоўцы дадому чыркануць не было калі, ды і шматок паперы паспрабуй знайсці.

— Што вам даводзілася перавозіць?

— Рыштунак, боепрыпасы, правіянт салдацкі — пшонку ды пшонку. Бачыць яе да гэтай пары не магу!

— Вайна для вас скончылася, здаецца, пад Кёнігсбергам?

— Во гэта была крэпасць дык крэпасць! Тысячамі нашы хлопцы клаліся штодня ля яе сценаў. Там мяне так кантузіла, што і сёння не разлучаюся са слухавым апаратам.

— А тым часам як вы, Марыя Паўлаўна, з чатырма дзецьмі на руках, перажылі ліха?

— І не пытайцеся, дочачка. Каго — на рукі, каго — за руку, хто — за прыпол ці поплеч. У лесе ад немцаў хаваліся, па дарогах з агню ды ў полымя бадзяжылі, у блакаду ў гнілым балоце гібелі. Пасля вызвалення, калі дабраліся дадому (ён на гэтым самым месцы стаяў, дзе зараз жывём), зноў жахнуліся. Замест дома — папялішча, па ім замурзанае кацяня лазіць, жаласна мяўкае...

— І ўсё спачатку?

## І ўсё спачатку...

Зноў яны ў матчыным дамку прытуліліся ўсі табарам.

— Я правадніцай на чыгунку пайшла, потым нянькай у бальніцу. Стась, амаль зусім аглухлы, пасля дэмабілізацыі ніяк працу не мог знайсці, пакуль тут, у аэрапорце, акумулятаршчыкам не ўладкаваўся. Са шкоднымі рэчывамі справу меў, з сернай кіслатой — страх!

— Падаецца, няма на свеце такіх страхаў, праз якія б вы не прайшлі, не адолелі. Але ж... Мо ўспомніце свой самы светлы дзень?

— Калі выйшла на ганак і бачу: ля веснічак з рэчмяшком салдат стаіць, вышэзны і худзюшчы. Сэрца пакацілася: Стась!

— А вы, Станіслаў Станіслававіч, што прыгадаеце?

— Як з крыкам “Тата!” дзеці выбеглі, павіслі ў мяне на шыі: Галя, Толік, Ала, Ліля. Усе чацвёра, усе яшчэ жывыя...

Стары чалавек змаўкае, не ў сілах гаварыць.

— Прабачце, што значыць “яшчэ жывыя”? Вайна ж скончылася.

— Каб жа так! Пачынацца яна пачынаецца, але чамусьці не канчаецца, гэтая пачвара. Праз гады і дзесяткі год даганяе не толькі тых, хто ваяваў, а і бязвінных дзетак. Забірае жыцці, калечыць, перакручвае і перакрэслівае лёсы. Старэйшай, Галі, не стала хутка пасля Перамогі, яшчэ праз некалькі год памёр і Толік. Хіба ж магло прайсці бясследна ўсё, што перанеслі? Ала з Ліляй засталіся, падарылі нам з Марыяй чацвёра ўнукаў і шэсць праўнукаў. А магло б яшчэ колькі быць!

Паспрабуй не пагадзіцца з ветэранам: вайна — гэта заўчасна зніклыя і ненароджаныя дзеці, будучыня з параненай памяццю. У кожнай сям’і тое пацвердзяць, хоць сярод новых, не зведаўшых, на шчасце, таго ліхалецця пакаленняў сустракаюцца такія, каму тое — нібы далёкая казка, што іх не тычыцца. Для адных мінулая вайна — незагойная рана, нескончоная трагедыя. Для другіх — палітычная гульня, свядомая кан’юнктура.

## Трывогі і мары

...За святочным сталом мы вярнуліся і на дзевяць гадоў назад, калі салдату Перамогі перакрылі шлях да плошчы Перамогі.

— Што мяне тады моцна ўразіла: прапускалі толькі тых, хто пад чырвонымі сцягамі і з партрэтамі Сталіна. Быццам час крутанулі назад. Ну колькі можна цягаць тыя партрэты? Калісьці мы не ведалі праўду пра гэтага цмока, а цяпер?

Ён крыху аддыхаўся, глытнуў гарбаты і працягваў:

— Вы не думайце, што я стары і нічога не разумею. Хай сабе застаўся з адным вокам і з батарэйкамі на падзарадцы для слухаўкі. Але ў галаве батарэйкі яшчэ не перагарэлі, і сам мікічу, што да чаго.

Як гэта так — дзяліць ветэранаў на “сваіх” і “чужых”? Я што, на іншым баку ваяваў, Радзіму не засланяў? Гэта, пэўна, дзеля “патрыятычнага” выхавання моладзі робіцца? Той, хто не так даўно Гітлера ўхваляў, цяпер Сталіна згадвае любіць. Ну і бязглуздзіца! Ды калі той Сталін такі ўжо недатыкальны “геній”, то чаму вайну не прадухіліў, а развёў “любоў і дружбу” з Адльфам-людажэрцам, уступіў з ім у хаўрус дзеля перадзелу Еўропы, а ў самога краіна да абароны была не падрыхтаваная? Гэта ж столькі ахвяр — незлічона, што ў пачатку, што на завяршэнні вайны. Сам сведкам быў. Ці ж можна маліцца на таго, каго ў народзе справядліва “крывавым” назвалі?

Пытанні, пытанні. Яны вярэдзяць сэрца, закранаюць не толькі адышоўшае.

— Скажыце, у якой жа краіне я жыву? Хіба за тое ваяваў, каб бачыць, як пакутуюць у галечы землякі, як нас кормяць хлуснёй і пустымі абяцанкамі. Як валакам цягнуць назад, у мінулае, ад якога мы, здавалася, пачалі было адыходзіць.

Слухаю ветэрана і думаю: і зараз, калі іншыя так-сяк дажываюць свой век, гэты не толькі аб уласным рупіцца. Станіслава Станіслававіча Глінскага хвалюе лёс краіны, не дае спакою, што зараз, як і ў 20—30—40-я, паўсюль шукаюцца “ворагі”, сеецца злосць на ўсіх, хто думае “не так”.

— Скажу не тоячыся: калі шукаць сапраўдных ворагаў, дык лічу: гэта — бальшавікі, камуністы. Яшчэ падлеткам быў, як чэкісты схапілі мяне, кінулі ў нейкі смярдзючы падвал, мучылі, патрабуючы, каб нешта дрэннае на суседзяў нагаварыў. І расстралялі б, як сябра-суседа па камеры. Ды тыф дапамог! Валяўся заўшыўленым дахадзягам у гарачцы, і мяне выкінулі ў споднім проста на мароз. Дзякуй Богу, незнаёмыя добрыя людзі ўратавалі... Колькі помню сябе, ледзь не ўсё жыццё — пад нейкай пагрозай, страхам. І зараз тое, бо тыя ж камуністы, хоць і з прыхаванымі білетамі, у кіруючых крэслах сядзяць, а кіраваць не ўмеюць. Толькі б ім уціскаць народ, які і без таго нагараваўся.

Старому мінчаніну — пэўна, такіх у сталіцы не многа засталося — неяк і не верыцца, што ўсё XX стагоддзе прапусціў праз свой лёс і што ўвасабляе сабою жывую гісторыю Бацькаўшчыны. І хоць сілы ўжо не тыя і загадваць далёка не выпадае, усё ж-такі песціць у глыбіні душы мару:

— Эх, прайсціся б яшчэ хоць разок па горадзе, дзе хлапчанём ведаў ледзь не кожную будыніну.

Яму хочацца бачыць, як адраджаецца жывы беларускі дух, паўстаюць аблічча ўжо знішчанай даўніны.

— І каб можна было ісці куды хочаш па вуліцах і плошчах і ніхто не заступаў табе дарогу. І дыхалася лёгка, вольна. Ну не мне, дык унукам і праўнукам, усім нашчадкам.

Хай збудзецца Ваша запаветнае жаданне, дарагі Станіслаў Станіслававіч! Прыміце шчырае віншаванне з адметнай датай — 100-гадовым юбілеем — і нізкі паклон за Ваш з Марыяй Паўлаўнай жыццёвы подзвіг. Дабра Вам у хату, здароўечка ранейшага, маладога, цеплыні родных і сяброў. Вы заслужылі візу ў Краіну старэйшын, якімі можа ганарыцца Беларусь.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

ПУЛЬС

## На адно месца — 13 беспрацоўных

Гарадская служба занятасці з пачатку года зарэгістравала 4,6 тысячы беспрацоўных. На 1 мая іх колькасць дасягнула 9100 чалавек. Няўхільнае абвастрэнне сітуацыі на рынку працы тлумачыцца перш за ўсё праваламі ў дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў.

З пачатку года 38 з іх паменшылі аб’ёмы вытворчасці, індустрыя горада ў цэлым не справілася з заданнем па тэмпах росту вытворчасці. Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі знізілася ў параўнанні з апошнім кварталам мінулага года, а запасы гатовых вырабаў на складах дасягнулі 43% ад іх месячнага выпуску. За студзень—красавік колькасць стратных прадпрыемстваў склала 132, а 140 наймальнікаў прадставілі ў Цэнтр занятасці спісы на скарачэнне 1822 работнікаў.

Найбольш масавае звальненне адбываецца ў вытворчых аб’яднаннях “Маналіт” і “Віцязь”, у акцыянерных таварыствах “КІМ” і “Віцебскія дываны”, на станкабудаўнічым заводзе “Вістан”.

За кошт скарачэння штатаў узровень беспрацоўя перавысіў 4%. У гарадскую службу занятасці штомесячна звяртаецца ў сярэднім 1150 чалавек, што на 100 чалавек больш, чым год таму. На адну вакансію прэтэндуе 13 беспрацоўных.

## «Хлебнае» месца на рынку

Цяжка знайсці ў Віцебску больш “хлебную” пасаду, чым кантралёр калгаснага рынка. Той, каму яна даручана, займаецца размеркаваннем і юрыдычным афармленнем гандлёвых месцаў для збыту тавараў, якія належаць дробным прадпрымальнікам.

Працэс афармлення не вельмі хуткі, а прадпрымальнікаў шмат і некаторыя з іх не супраць “падмазаць”, каб афармленне месцаў было паскорана. За гэта і такса ўстанавілася: 200 долараў за адно месца.

Аб гэтым стала вядома супрацоўнікам Упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС аблвыканкама, і яны пачалі сачыць за адным са старшых кантралёраў Смаленскага рынка Віцебска. Неўзабаве ён быў затрыманы падчас перадачы яму хабару ў суме 600 долараў — за нечарговае афармленне трох гандлёвых месцаў.

Супраць кантралёра ўзбуджана крымінальная справа згодна з артыкулам 430 ч.2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь “Атрыманне хабару”.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Мяса і малако ўтрымліваюць радыенукліды

Праверыўшы мяса дзікіх жывёл, спецыялісты Гомельскага абласнога клінічнага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя прыйшлі да высновы, што паляванне ў тутэйшых лясах нават праз 17 гадоў пасля аварыі на ЧАЭС застаецца заняткам вельмі небяспечным.

Узровень утрымання радыеактыўнага цэзію ў мясе лася перавысіў дапушчальныя нормы ў 5, а ў мясе дзіка — у 10 разоў. Але медыкаў больш засмуціў той факт, што прыкладна гэткі ж узровень забруджвання малака ў прыватным сектары Нароўлі. Праўда, аматары галоўнага прадукта падворкаў могуць супакойваць сябе тым, што вялікія дозы цэзію выяўлены толькі ў чатырох працэнтах узятых на аналіз малакапрадуктаў.

**Наталля ВАСІЛЕВІЧ.**

## Скарочаны тэрмін выплат для ўкладчыкаў «БелБалтыі»

Зменены парадак датэрміновага вяртання грашовых сродкаў укладчыкам ТАА “Банк ”БелБалтыя”, якія заключылі з ААБ “Беларусбанк” дагаворы на пагашэнне запазычанасці збанкрутаванага банка. Тэрміны выплат для ўкладчыкаў “БелБалтыі”, якія прадстаўляюць сацыяльна найменш абароненую частку грамадства — пенсіянераў і інвалідаў, скарочаны.

Цяпер на працягу месяца з даты прыняцця станоўчага рашэння змогуць атрымаць наяўнымі ўсю належную ім суму грошай інваліды І і ІІ груп, а таксама 1000 долараў ЗША асобы, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту. Рэшта гэтай катэгорыі грамадзян будзе выплачана праз год.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У Калінкавічах абараняюць у судзе права на бясплатнае харчаванне

Прадстаўнікі асветніцкага грамадскага аб’яднання “Грамадства і мы” з Калінкавічаў звярнуліся ў Канстытуцыйны суд Беларусі з заявай, у якой выказваецца просьба адмяніць пастанову Савета міністраў Беларусі № 1076 ад 8 жніўня 2002 года.

У выніку гэтай пастановы жыхары Калінкавічаў пазбавіліся ільгот і кампенсацый, прадугледжаных законам “Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС”. У прыватнасці, у школах раёна скасавана бясплатнае харчаванне для школьнікаў і магчымасць аздараўлення.

Між тым дадатковае абследаванне экалагічнай сітуацыі ў Калінкавічах, праведзенае аблгідраметам 19 лістапада 2002 года, пацвердзіла перавышэнне ўтрымання цэзію-137 больш як 1 кюры/ кв. км. Даследаванні, праведзеныя Інстытутам радыяцыйнай медыцыны “Белрад” у школах горада, засведчылі значнае перавышэнне дапушчальных дозавых нагрузак у дзяцей.

**Аляксей ШЭІН.**

*Курган Славы каля Мінска, май 2003 г.*

Фота IREX/ProMedia.

## «Не зусім забыты лес»

У Мінску адбылася прэзентацыя дакументальнага фільма Чэшскага тэлебачання “Не зусім забыты лес”, прысвечанага Курапатам.

Стужка працягласцю 28 хвілін, створаная кінапубліцыстамі Марэкам Душакам і Анджэем Соўкупам пры падтрымцы чэшскай дабрачыннай арганізацыі “Чалавек у няволі”, была ўпершыню паказана ў Чэхіі 16 сакавіка.

Як адзначыў каардынатар грамадскай ініцыятывы “За ўратаванне мемарыялу Курапаты”, культуролаг Вацлаў Арэшка, фільм плануецца перакласці на беларускую мову, размножыць яго і выкарыстоўваць у асветнай дзейнасці актывістаў ініцыятывы на тэрыторыі Беларусі.

Паводле слоў вядомага даследчыка сталінскіх рэпрэсій, дацэнта Беларускага дзяржуніверсітэта Ігара Кузняцова, гэтая карціна атрымала шырокі грамадскі рэзананс і неўзабаве будзе паказана па тэлебачанні Украіны, а таксама паказана на кінафестывалях у Германіі і Польшчы. Фільм пра Курапаты, паведаміў І.Кузняцоў, плануюць зняць і польскія кінематаграфісты.

**Марат ГАРАВЫ.**

РЭГІЁН

## У гонар народнага доктара

У памяшканні раённага вузла сувязі ў Браславе адбылося гашэнне спецыяльнага штэмпеля паштовага канверта з арыгінальнай маркай, выпушчанай у гонар знакамітага ўрача Станіслава Нарбута (1853—1926). Па часе яна супала з пачаткам працы VI Міжнароднай краязнаўчай канферэнцыі “Браслаўскія чытанні”, на якой навукоўцы з пяці краін прачыталі 45 дакладаў і часта ўзгадвалі імя лекара, асветніка і грамадскага дзеяча.

У свой час Нарбут закончыў Мюнхенскі універсітэт, на свае сродкі пабудаваў у азёрным краі бальніцу, безадмоўна лячыў усіх, хто да яго звяртаўся. Пасля ягонай смерці людзі сабралі сродкі і на магіле на Замкавай гары ўзвялі манумент, які дагэтуль упрыгожвае райцэнтр.

## Трагедыя на пасяўной

Жах перажылі жыхары Белькаўскага сельсавета, даведаўшыся аб жорсткім забойстве галоўнага эканаміста калгаса “Чырвоны маяк” Пастаўскага раёна. У той дзень 47-гадовы спецыяліст, маці дзвюх дачок, была дзяжурнай на тэрыторыі мехмайстэрні, дзе потым і знайшлі яе моцна знявечаны труп.

Як устаноўлена следствам, напярэдадні сюды заехаў 26-гадовы жанаты трактарыст і, магчыма, дамагаўся жаночай ласкі. Сустрэўшы адпор, ён забіў няшчасную, а праз некаторы час і сам застрэліўся, усвядоміўшы, што нарабіў. Вядома толькі, што падчас службы ў войску механізатар лячыўся ад псіхічных захворванняў, і калі ён выпіваў, то проста вар’яцеў.

## Лета без вады

На працяглы тэрмін спынілася падача гарачай вады ў Глыбокім.

Маніторынг водазабеспячэння насельніцтва, праведзены спецыялістамі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, паказаў, што і халодная вада паступае ў дамы з павышаным утрыманнем нітратаў і шкодных элементаў. У прыватнасці, толькі па жалезе максімальная канцэнтрацыя перавышае норму ў 1,2—1,8 раза, а ў раёне малочна-кансервавага камбіната, дзе найбольш часта здараюцца перабоі з вадой, перавышэнне ў 3 разы робіць ваду надзвычай жорсткай.

## Абяцанкі каторы год

Дарэмным аказаліся спадзяванні медыкаў Міёрскага раёна на хутчэйшае завяршэнне будаўніцтва новага корпуса райбальніцы. Добра яшчэ, што гэты аб’ект наогул не выключылі, як 21 аналагічны, з Дзяржаўнай праграмы будаўніцтва ўстаноў аховы здароўя.

На гэты раз здаць пад ключ бальнічны комплекс у Міёрах вырашылі ў 2005 годзе. Эпапея з будаўніцтвам мясцовай бальніцы тут, як і ў суседняй Шаркоўшчыне, цягнецца з 1997 года.

**Уладзімір ШЫК.**

РАКУРС

## Многодетные семьи, помощи не ждите. «Так традиционно сложилось...»

Вы когда-нибудь пробовали подсчитать, в какую сумму обходится родителям вырастить своего ребенка, давая ему, по возможности, все необходимое? А если ребенок не один, а, скажем, четверо? Или пятеро?..

Многодетным семьям помогает государство, возразите вы и будете правы. Вот только помощь его длится не бесконечно...

В настоящее время в Беларуси официально насчитывается около 98 тысяч многодетных семей. На самом деле эта цифра в несколько раз больше. Дело в том, что с достижением детьми 18-летнего возраста семья утрачивает статус многодетности, а вместе с ним и все предоставляемые ей льготы. Все бы ничего, да вот только не каждый ребенок из подобной семьи, окончив школу, становится финансово независимым человеком и начинает зарабатывать деньги себе на пропитание. Речь, разумеется, идет не о тех молодых людях, которые категорически отказываются работать. Просто некоторые, проявляя здоровые амбиции и желая чего-нибудь добиться в жизни, продолжают учиться дальше и в большинстве своем не могут нормально трудоустроиться.

Как быть в этом случае? И что об этом сказано в нашем законодательстве?

В документе, именуемом “Кодексом о браке и семье”, существует лишь определение многодетной семьи, по которому *“многодетной является семья, в которой на иждивении и воспитании находятся трое и более детей”*. На этом все.

Чтобы хоть как-то разобраться в сложившейся ситуации, я позвонила в Министерство труда и социальной защиты населения Беларуси. Сотрудница, отказавшаяся представиться, согласилась, что такая проблема действительно существует, однако заметила, что решать ее никто не собирался и, видимо, не собирается в ближайшем будущем. А на мой вопрос о том, почему все-таки не учитывается, работают повзрослевшие дети или нет, она ответила: *“Так традиционно сложилось”*. Ну что же, в нашей стране традиции всегда были высоко чтимы и соблюдаются очень свято...

Я обратилась за комментарием в Белорусский союз женщин. Там также отметили, что эта проблема является одной из самых наболевших, попутно заметив, что еще несколько лет назад льготы, предоставляемые многодетным семьям, сохранялись на время обучения детей. Сегодня же, в связи со сложной экономической ситуацией в республике, все отменено...

**Ирина Саканцева,** мать пятерых детей (троим из них уже исполнилось по 18 лет), говорит: *“Мы не просим помочь нам материально, научились как-то сами обходиться. Очень обижает, что меня уже даже многодетной не считают, как будто трое старших детей совсем и не мои. Если раньше на День матери хотя бы поздравляли (мелочь, а приятно!), на встречу с президентом приглашали, то теперь даже и не вспоминают. А давно обещанную медаль матери-героини до сих пор вручить никак не соберутся”.*

Конечно, по поводу многодетных семей можно много спорить. Стоит ли вообще предоставлять им льготы или нет, — вопрос довольно актуальный в наше время. Я согласна, что детей нужно рожать столько, сколько можешь прокормить. Но ведь некоторые высокопоставленные чиновники периодически кричат о сложной демографической ситуации. Но для того чтобы “заставить” больше рожать, одного крика мало. Нужно поощрение (в основном материальное), чтобы можно было со всеми своими детьми достойно существовать. И если повысить уровень жизни не удается, то хотя бы стоит предоставить таким семьям реальные льготы и гарантии, которых сегодня никто дать не может.

**Мария РУСАКОВИЧ.**

